


ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")
Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK
Printing Office: Buchdruckerei der Apostolischen Visitatur, München 8, Rosenheimer Straße 46a. — Telefon-Nr. 45 81 43
Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III
Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA"
München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 24 (103) — Нядзеля 15 чэрвеня 1952 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 6


# 1-ая палітычная прамова Айзэнгауэра

Былы галоўнакамандуючы збройнымі сіламі Атлянтычнага Пакту генэрал Айзэнгаўэр сказаў сваю першую палітычную прамову, якую бадай поўнасьцю выдрукавалі чуць ня ўсе амэрыканскія часапісы ў чацьвер 6 чэрвеня, дапаўняючы яе шырокімі заўвагамі й камэнтарамі. Такое зацікаўленьне першым палітычным перадвыбарным выступленьнем Айзэнгаўэра зьяўляецца зусім зразумелым, калі ўзяць пад увагу, што даўгалетні генэрал, будучы галоўнакамандуючым альянцкімі сіламі ў Эўропе падчас другой сусьветнай вайны, а потым галоўнакамандуючым збройнымі сіламі Атлянтычнага Пакту, із жаўнерскай паслухмянасьцю выконваў зачады сваіх дзяржаўных зьверхнікаў і не заяўляў свайго палітычнага крэдо. Навет да мамэнту ягонае згоды кандыдаваць на прэзыдэнта ад рэспубліканскай партыі ніхто ў Амэрыцы ня ведаў, ці ён у свіх палітычных перакананьнях зьяўляецца рэспубліканцам ці дэмакратам. Таму ягоная першая перадвыбарная прамова, а мае іх сказаць да часу выбараў у лістападзе яшчэ каля сотні, і зьяўляецца палітычным крэдо Айзэнгаўэра. Жывое зацікаўленьне ягонай прамовай павялічваецца яшчэ ў сувязі з тым, што Айзэнгаўэр, побач із сэнатарам Тэфтам, найбольш праўдападобна будзе выбраны на прэзыдэнта ЗША, ня гледзячы на тое, што сэнатар Тэфт мае за сабой на сяньняшні дзень бадай на 100 дэлегатаў болей, чымсьці Айзэнгаўэр. Дасюлешнюю вялікую перавагу сэн. Тэфта тлумачыцца тым, што да апошняга часу Айзэнгаўэр яшчэ асабіста ня браў удзелу у перадвыбарнай кампаніі, тады, калі сэнатар Тэфт вельмі энэргічна ўвесь час вёў прапаганду за сваю кандыдатуру.

Амаль уся амэрыканская прэса ацэньвае прамову Айзэнгаўэра, як вельмі карэктную й нязвычайна стрыманую. Наагул прэса выказваньні Айзэнгаўэра прывітала й адначасна выказала пажаданьне, каб Айзэнгаўэр у сваіх будучых выступленьнях з большай яснасьцю займаў пазыцыю што да паасобных пытаньняў і каб у сваей крытыцы быў астрэйшым.

Айзэнгаўэр — сяньня цывільны чалавек і кандыдат рэспубліканцаў на прэзыдэнта сказаў сваю прамову ў сераду 4. 6. сёлета ў родным гарадку стэйту Кэнзас. Гэта была першая ягоная найбольшая прамова, у якой ён закрануў рад праблемаў вонкавай і нутранай палітыкі й у сувязі з гэтым заняў сваю собскую пазыцыю. Ён быў у сваей крытыцы пад адрасам цяперашняга ўраду ЗША вельмі паўстрыманым, але заявіў, што гэта ганьба для краіны, калі ей працягам даўжэйшага часу кіруе толькі адна партыя.

Радыё, прэса й кінажурналы ўжо ад даўжэйшага часу былі падгатованы да выступленьня Айзэнгаўэра й мелі магчымасьць трансляваць і тэлевізаваць прамову па ўсей Амэрыцы. Да самага маленькага мястэчка Эйбайлену з усіх канцоў краіны прыбыла вялізарная колькасьць людзей, каб паслухаць першую прамову кандыдата на прэзыдэнта.

У сувязі з вонкавай палітычнай сытуацыяй Айзэнгаўэр затрымаўся над замежнай дапамоговай праграмай і зазначыў, што выдаткі ЗША для арганізацыі Атлянтычнага Пакту дасягнулі найвышэйшае ўзроўні. Ужо прыйшоў час, каб заняцца праблемай зьменшаньня выдаткаў на дапамогу для заграніцы, але пры гэтым нельга й жартаваць абароннымі мэтамі. „Пры гэтым, — сказаў Айзэнгаўэр — найбольшае значэньне мае зразуменьне Эўропы, што яна павінна быць задзіночанай, бо інакш апыніцца ў нязвычайна цяжкім палажэньні. Кажны крок у кірунку запраўднага задзіночаньня Эўропы ёсьць вялікай перамогай для вольнага сьвету". „На працягу апошніх 7-ёх год, — гаварыў далей прамовец — у выніку „няслабнучай варожасьці" магутнай камуністычнай дыктатуры эканамічныя, сацыяльныя й вайсковыя праблемы ў сьвеце шмат завастрыліся. Пасьля пэрыяду замяшаньня ў Амэрыцы перамагла сьвядомасьць, што раўнавага можа быць адноўленай толькі за пасярэдніцтвам амэрыканскай дапамогі, згодна з чым Амэрыка й дзеіла. Але Амэрыка мае права ведаць, дакуль яшчэ вольныя нацыі будуць патрабаваць яе дапамогі. Таемную дыпляматыю трэба спыніць. Амэрыканец мае ўсе падставы мець страх перад таемнаю дыпляматыяю, дзякуючы якой мы прыйшлі да ялтанскай канфэрэнцыі. Дзеля сваей собскай справы Амэрыка мае быць сяньня духова, эканамічна й вайскова сільнай."

Прамаўляючы на вонкава палітычныя тэмы, былы генэрал паказаў на чатыры пункты, што могуць стацца небясьпекаю для амэрыканскага народу й прычыніцца да небясьпечнага збачэньня ад амэрыканскага спосабу жыцьця:

1. Нязгода, гэта значыць — увесь час пабольшваныя супярэчнасьці між эканамічнымі элемэнтамі краіны й „фантастычны пагляд", што адна частка амэрыканскага грамадзтва можа кіраваць на працягу доўгага часу, жнучы ўраджаі заможнасьці, пакідаючы народныя масы паза станам заможнасьці.

2. Заўсёднае зьняцэньваньне грошаў, інфляцыя, што можа зьнішчыць прадукты жыцьцёвай працы.

3. Панадпрадукаваньне, што можа загражаць зьнішчэньню ініцыятывы.

4. Бюракрацыя, усеўладнае пераняцьце функцыяў, што, пайменна, належаць да рэсорту мясцовых упраўленьняў і паасобных грамадзянаў.

Адным з галоўных заданьняў амэрыканскага грамадзяніна, — гаварыў далей Айзэнгаўэр — павінна быць здольнасьць, побач з нутрана палітычнымі небясьпекамі, шыбка распазнаваць і небясьпекі з вонкавага боку. Амэрыка, напасьледак, зразумела, што аслабленыя абедзьвюма сусьветнымі войнамі нацыі могуць лёгка патрапіць у камуністычныя рукі. Адпаведна да гэтага яна й павяла сваю палітыку. Кажнаму павінна стацца ведамым, што ЗША ня могуць заўсёды дапамагаць запрыязьненым вялікімі сумамі грошаў. Бо збанкрутаваная Амэрыка тады выдасьць Крамлю безбаронна вялізарную частку сьвету.

## Палітычная праграма Тэфта

Рэспубліканскі сэнатар Робэрт Тэфт у сваей радыёвай прамове 1 чэрвеня накрэсьліў сваю праграму ў галіне замежнай палітыкі, якую будзе ён праводзіць у выпадку выбару яго на прэзыдэнта ЗША. У гэтай прамове, якая мела месца непасрэдна перад паваротам у Амэрыку ягонага галоўнага канкурэнта генэрала Айзэнгаўэра, запярэчыў Тэфт часта высоўваным цьверджаньням, што быццам ён зьяўляецца ізаляцыяністым. Сэнатар заявіў, што ён аднак зьяўляецца праціўнікам пэрманэнтнага стацыянаваньня амэрыканскіх збройных сілаў у Эўропе, але ён наважаны шэсьць амэрыканскіх дывізыяў пакінуць у Эўропе да часу, калі Эўропа разбудуе собскія збройныя сілы, здольныя для ейнае абароны. Таксама ён будзе старацца за прадаўжэньнем амэрыканскай замежнай помачы. Вышыню й спосаб правядзеньня замежнай помачы паддаў Тэфт гвалтоўнай крытыцы.

Ягоныя галоўныя дамаганьні былі наступныя:

1. Заключэньне мірнага дагавору ў Карэі.
2. Далейшая разбудова лётніцкіх сілаў ЗША.
3. Актыўная прапаганда супраць камунізму.
4. Уняважненьне ялтанскага дагавору.

З асабліва войстрымі словамі выступіў сэнатар супраць прэзыдэнта Трумана й міністра замежных справаў Эчысона, называючы ведзеную імі палітыку найгоршай у дасюлешняй замежнай палітыцы ЗША.

# Весткі з шырокага сьвету

**Масава ўцякаюць з Усходняй Нямеччыны.** Як ведама, бальшавіцкія й усходнянямецкія ўлады ўздоўж граніцы у Заходняй Нямеччынай пасьпешна прыгатаўляюць г. зв. забаронены пояс, зь якога прымусова вывозяць нямецкае насельніцтва на ўсход, пераважна за лінію Одра-Ніса, а навет у глыб Савецкага Саязу церазь Берасьце. Эвакуаваным дазваляецца ўзяць з сабой толькі 45 клг. багажу. У сувязі з гэтым пачаліся масавыя ўцёкі нямецкага насельніцтва з прыгранічнага пояса на захад. Прыкладам толькі ў вакрузе Зоодэн-Алендорф да 8 чэрвеня шчасьліва пранікла на захад 800 уцекачоў. У Баварыю ўцякло толькі ў чацьвер 5 чэрвеня па паўдні 1.300 асоб. Але бальшыня такіх уцекачоў бывае затрымліваная, бо аддзелы ўсходнянямецкай паліцыі й савецкіх жаўнераў маюць загад страляць па ўцекачох.

**Шпіёнская дзейнасьць камуністычнай партыі Францыі.** Як ужо паведамлялася ў папярэднім нумары, камуністычныя заклікі да генэральнага страйку ў знак пратэсту супраць арышту генеральнага сакратара камуністычнай партыі Дуклё ня далі спадзяванага эфэкту. Але францускі ўрад прадаўжае станоўкія крокі супраць бальшавіцкіх пятых калёнаў. Праведзеныя паліцыяй масавыя вобыскі паказалі, што ў рукі паліцыі папала вялікае мноства тайных дакумэнтаў, якія датычылі дадзеных аб вайсковых уладжаньнях у Францыі й расцэньваюцца, як шпіёнскі матарыял супраць нутранай і вонкавай бясьпечнасьці краіны.

**Апанаваньне сытуацыі ў лягеры ваеннапалонных на востраве Коджэ.** У разагітаваным лягеры камуністычных ваеннапалонных 76 на востраве Коджэ амэрыканскія ўлады напасьледак прынялі адпаведныя меры й прывярнулі там парадак. Пайменна амэрыканскія парашуцістыя ў колькасьці 750 чалавек, успамаганыя панцырамі, 5 чэрвеня прымусова разьдзялілі камуністычных ваеннапалонных у колькасьці 6.000 чалавек на групы па 500 асоб і перавялі іх у іншыя лягеры. Так як камуністыя ставілі збройны супраціў і змагаліся самымі выкаванымі мячамі й іншымі прыладамі, у выніку гэтай апэрацыі былі два жаўнеры й 30 ваеннапалонных забітымі, а 13 амэрыканцаў і 152 ваеннапалонныя карэйцы раненымі. Альянцкія ахвіцэры адкрылі ў лягеры 15 мэтровы падземны праход у суседні лягер 77, распрацаваны да падробнасьцяў плян вызваленьня ўсіх 80.000 ваеннапалонных на востраве Коджэ, тэлефонную сетку й радыёвыя ўладжаньні. Тыя ваеннапалонныя, якія з паднятымі рукамі выказалі гатоўнасьць выканаць альянцкі загад дабравольна апусьціць лягер, былі сваімі фанатычнымі таварышамі забітымі. Амерыканскія аддзелы знайшлі ў лягеры каля 3.000 коп'яў і 1.000 напоўненых бэнзынай собскаручна выкананых ручных гранатаў. Апрача гэтага кажны ваеннапалонны меў нож.

**Перамовы ў справе спыненьня страйку ў амэрыканскай сталёвай індустрыі сарваныя.** Трываючы ў амерыканскай сталёвай індустрыі ад даўжэйшага часу страйк, які прыносіць Амэрыцы вялікія страты, прадаўжаецца й далей. Перамовы ў справе спыненьня страйку, якія вяліся ў Белым Доме й мелі быць закончаныя паразумленьнем, як аб гэтым пісаў прэзыдэнт Труман да сэнату, у панядзелак 9 чэрвеня былі неспадзявана сарваныя. Прэзыдэнт прафэсыянальнага саюзу СІО Філіп Мары паведаміў, шта страйк 650.000 прафэсыйна зарганізаваных амэрыканскіх мэталюргаў будзе прадаўжацца. Сарваньне перамоваў галоўна наступіла з тэй прычыны, што прадстаўнікі сталёвай індустрыі не згадзіліся, што толькі прафэсыянальна арганізаваныя работнікі будуць магчы працаваць у сталёвай індустрыі.

**Прэзыдэнт Труман дамагаецца ад кангрэсу права канфіскаты.** Прэзыдэнт Труман зажадаў 10 чэрвеня ад кангрэсу на супольным спэцыяльным паседжаньні абедзьвюх палатаў выдаць закон, які даваў-бы яму права сканфіскаваць сталёвую індустрыю да часу спыненьня дасюлешняга страйку.

**Ажыўленьне ваенных дзейнасьцяў на Карэйскім фроньце.** 12 чэрвеня з Токіё паведамляюць, што камуністыя на працягу пяці апошніх дзён вялі найцяжэйшую артылерыйскую атаку у раёне Хорван і ўздоўж чыгуначнай лініі, што вядзе на Сэул. Амэрыканскія збройныя сілы страцілі ў мінулым тыдні 553 забітых, раненых і прапаўшых бязь вестак. Гэта найвялікшая амэрыканская страта ў бягучым годзе. 11 і 12 чэрвеня сабраліся ў Панмунджон прадстаўнікі абодвых варожых бакоў дзеля перамоваў аб перамір'і пасьля трохдзённага перарыву. Кіраўнік дэлегацыі Задзіночаных Нацыяў генэрал Гарысон заявіў 13 чэрвеня, што ЗН не намераныя рабіць далейшых канцэсыяў і што яны бескампрамісна будуць трымацца свайго праекту з 28 красавіка ў справе мэтадаў рэпатрыяцыі 170.000 ваеннапалонных паўночных карэйцаў і кітайцаў.

**Францыя прапануе ў справе нямецкай канфэрэнцыю з Саветамі.** Францускі ўрад пастанавіў 11 чэрвеня запрапанаваць ЗША й Вялікабрытаніі супольную канфэрэнцыю з Савецкім Саюзам, на якой было-б разгледжанае нямецкае пытаньне, пайменна — пытаньне агульных вольных выбараў у цэлай Нямеччыне, што ёсьць перадумовай стварэньня агульнанямецкага ўраду й падпісаньня мірнага дагавору. Пытаньне гэтае будзе аднэй з тэмаў канфэрэнцыі міністраў замежных справаў ЗША, Вялікабрытаніі й Францыі. Канфэрэнцыя гэтых трох дзяржаваў з Савецкім Саюзам прапануецца Францыяй на 27 чэрвеня.

**Закон замежнай помачы Амэрыкі напярэдадні падпісаньня прэзыдэнтам.** Амэрыканскі сэнат бальшынёй 59 супраць 11 галасоў прыняў 9 чэрвеня закон аб замежнай помачы, якая пасьля скарачэньня на 1,452 мільярды даляраў будзе выносіць 6,447 мільярдаў даляраў. Пасьля падпісаньня прэзыдэнтам Труманам закон увойдзе ў сілу. Гэтая сума прадугледжана на наступныя мэты:

**Заходняя Эўропа:** Ваенная дапамога — 3.415,614,750 даляраў; гаспадарская дапамога — 1.282,433,000 даляраў.

**Блізкі Ўсход і Афрыка:** Ваенная помач — 560.316.500 даляраў; тэхнічная помач — 50.822.750 даляраў; помач для арабскіх уцекачоў з Палестыны — 60.063.250 даляраў; помач для ўцекачоў у Ізраэлі — 70.228.000 даляраў.

**Азыя й пацыфічны прастор:** Ваенная помач — 564,807.500 даляраў; гаспадарская помач — 202,778.250 даляраў; тэхнічная помач — 118,634.250 даляраў.

**Лацінская Амэрыка:.** Ваенная помач — 57,685.750 даляраў; тэхнічная помач — 20,229.000 даляраў.

**СССР адкінуў плян раззбраеньняў заходніх дзяржаваў.** Савецкі Саюз 9 чэрвеня адкінуў плян раззбраеньняў вялікіх дзяржаваў, прадстаўлены заходнімі дзяржавамі. Для абгрунтаваньня савецкі дэлегат у камісыі для раззбраеньняў ЗН Якуб Малік падаў, што заходні плян якраз мае на мэце перашкодзіць забароне атамнай бомбы й запраўднаму разаружэньню. Праект заходніх дзяржаваў, які 28 травеня быў пераданы Савецкаму Саюзу, вымагаў агранічэньня збройных сілаў США, Савецкага Саюзу й Кітаю на 1,5 мільёна чалавек для кажнай з гэтых дзяржаваў і для Вялікабрытаніі й Францыі на 800 жаўнераў для кажнай дзяржавы. Гэты праект быў адказам на дамаганьне Саветаў, каб усе вялікія дзяржавы зьменшылі свае збройныя сілы на адну трэйцюю часьць.

**Савецкія манэўры каля Японіі.** На поўначы й захадзе японскага вострава Гокаідо адбываюцца цяпер манэўры савецкай флёты й лётніцтва. У прыбярэжных мясцовасьцях чуваць гарматнія выстралы, а ў ночы відаць блеск карабельных рэфлектараў.

**Сэнатар Тэфт выйгрывае.** Кангрэс рэспубліканскай партыі стэйту Індыяна пастанавіў 7 чэрвеня, што ўсе выбраныя ім 32 дэлегаты на партыйную канвэнцыю будуць галасаваць за Тэфта. Таксама на прэзыдэнцкіх передвыбарах у стэйце Пайдзённая Дакота Тэфт здабыў за сабой усіх 14 дэлегатаў. На падставе апошніх падлічэньняў сэнатар Тэфт мае ўжо за сабой 469 дэлегатаў, а Айзэнгаўэр толькі 397.

# *Каб-жа быў гэта пачатак*

Заходняя палітыка ў дачыненьні да бальшавіцкага Ўсходу была да нядаўнага яшчэ часу агульным выяўленьнем страху. А ў сувязі з гэтым палітыка такая была да абсурдальнасьці ўступлівай, апартуністычнай, шуканьнем за ўсякую цану кампрамісаў і паразумленьняў коштам далёка йдучых і шкодных канцэсыяў. Такая самагубная палітыка Захаду выплывала, — на нашую думку — не із ягонае запраўднае слабасьці, але з хвальшывага аб ей уяўленьня й зь пераацэньваньня сілаў праціўніка.

Не падлягае сумліву, што ў Крамлі сядзяць сусьветнага маштабу праступнікі. Але таксама няма сумліву й у тым, што яны зьяўляюцца добрымі палітыкамі ў сусьветным маштабе й выдатнымі стратэгамі. Яны ўмела выкарыстоўвалі панічны страх Захаду перад магчымай новай вайной і дасканала йгралі на пачуцьцях заходніх грамадзянстваў, якія, змучаныя апошняй вайной, за ўсякую цану жадалі жыць спакойна, бесклапотна, не паносіць ніякіх новых ахвяраў і як мага аддаляць думку аб магчымай новай вайне. Таму ў дачыненьні да Захаду савецкая палітыка была ня толькі ўвесь час наступальнай і агрэсыўнай, але й палітыкай бязьмежнае нахабнасьці, гвалтаў і правакацыяў. Сталін пераканаўся, што чым мацней будзе ён крычаць, тым Захад будзе больш цішэйшы, чым больш будзе ён вымагаць, тым больш Захад будзе ўступлівейшы.

І трэба прызнаць, што такое паступаньне Крамля прынесла яму вялізарныя карысьці. Бо ў той час, калі Захад намагаўся ўсімі сіламі абласкавіць бальшавікоў, заспокойваў усякія іхныя капрысы, ішоў на што раз новыя ўступкі, дазволіў ім разбудаваць сусьветную магутнасьць коштам элемэнтарных свабодаў сотняў мільёнаў людзей, Крэмль за гэты час стаўся іменна дзякуючы такой палітыцы Захаду запраўднай загрозай для ўсяго сьвету. Ён поўнасьцю сабе падпарадкаваў і ссаветызаваў усе сатэлітныя краіны сярэдня-ўсходняй Эўропы й усходнюю Нямеччыну, падпарадкаваў сваім уплывам 450-ці мільённы Кітай і на тэрыторыях самых заходніх дзяржаваў стварыў пры ціхай згодзе Захаду свае моцныя базы ў форме камуністычных пятых калёнаў, разьдзьмухаў дамашнія войны й паўстаньні супраць інтарэсаў заходніх дзяржаваў у многіх краінах Далёкага Ўсходу. І ўзапраўды выносілася ўражаньне, што Саветы зьяўляюцца панамі палажэньня ў цэлым сьвеце й што выключна ад іх залежыць далейшы лёс усяе людзкасьці.

Палітыка г. зв. «кантэйнмэнту», створаная цяперашнім амбасадарам ЗША у Маскве Кэнанам, мела на мэце паўстрыманьне далейшага пашырэньня савецкае экспансыі. Гэтая палітыка была таксама палітыкай нічым неабаснаванага бясьсільля, бо, імкнучыся да далейшага паўстрыманьня Саветаў у іхным паходзе супраць Захаду, яна ціха пагаджалася на савецкія дасюлешнія заваяваньні. Праўда, на Захадзе разьлягаліся часамі галасы пратэсту супраць нахабнага патаптаньня Саветамі ўсіх іхных дагавораў з заходнімі дзяржавамі аб вольнасьці й незалежнасьці, прыкладам, дзяржаваў сярэдня-ўсходняй Эўропы, пасылаліся ў гэтай справе ў Маскву дыпляматычныя ноты, але далей гэтага навет у галіне толькі дыпляматычнай Захад ісьці баяўся. А супраць здушэньня й далейшага душэньня ўсіх людзкіх правоў народаў самога Савецкага Саюзу Захад не адазваўся навет і словам, баючыся, што гэта будзе разглядана Саветамі, як умешваньне ў іхныя нутраныя справы. І гэта тады, калі той-жа Савецкі Саюз усімі спосабамі вёў адкрытую дывэрсыю ў краінах дэмакратычнага Захаду, ясна накіраваную супраць ягонае нутранае й вонкавае бясьпечнасьці. Захад ня толькі не спрамогся патрэсьці кулаком перад Саветамі, але навет баяўся зьліквідаваць на сваей собскай тэрыторыі гнёздаў крэмлёўскае агентуры, каб не дражніць гэтым Маскву ды каб, барані Божа, не нарушыць собскіх дэмакратычных прынцыпаў.

Такім чынам у дасюлешнім змаганьні з бальшавізмам Захад выбраў вельмі

(Заканчэньне на 2 балоне)

